ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 9 (верасень) 2015






Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

## Вясёлы перапынак

Міні-кніжка




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




# ЗАДАТАК І... «ПАДДАТАК»

Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Хлопцы, мне трэба хату накрыць.

Зробім, суседачка, але калі дасі задатак.

Давай хутчэй, а то магазін зачыніцца.

Пачакайце! Які магазін?..

Піламатэрыялаў!..

*Вечарам...*

Нарэшце знайшла! Бачу, былі ў магазіне «**пілі**матэрыялы»...

Накрый мяне, бо холадна!

Накрыю, калі ты мне хату, ды яшчэ і хлеў накрыеш.

А задатак болей не прасіце, бо ён у вас ператвараецца ў «паддатак»!

**Усё!**




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Іголкатэрапія

# Фантастыка ў рэальнасці



*Міні-фельетон*

У кожнага пісьменніка ёсць свой метад пошуку інфармацыі, цікавых фактаў, персанажаў. Гэтыя спосабы адрозніваюцца адзін ад аднаго, бываюць неверагодна складанымі ці, наадварот, простымі, як белы дзень. Возьмем, напрыклад, аўтара гістарычных раманаў. Ён павінен даведацца пра шэраг фактаў, вызначыць нюансы і асаблівасці той эпохі, якую апісвае, дакладна перадаць яе дух. А вось пісьменнік, які выбірае любоўную тэматыку, часцей за ўсё прытрымліваецца наступнай схемы: галоўныя героі сустракаюцца — паміж імі ўзнікае каханне — потым нешта здараецца — і яны разыходзяцца, а ў канцы твора пасля ўсіх перыпетый лёсу пара зноў разам.

Найбольш цяжка, відаць, даводзіцца фантастам. Інфармацыю знайсці складана, ні з кім кампетэнтным не параішся (бо хто ж ведае, колькі галоў павінна быць у вялізнага монстра Краказябруха?). Пісьменнік усё павінен прыдумаць сам, знайсці сваю крыніцу натхнення. І, як ні дзіўна, шукаюць яе нярэдка ў рэальным жыцці...

Вось гатовы сюжэт для фантастычнага рамана. Жыў-быў мужчына, які вельмі хацеў стаць багатым. Але ніхто яму грошы з неба на галаву не сыпаў. Таму ён падумаў ды вырашыў адкрыць два прыватныя прадпрыемствы па вытворчасці корпуснай мэблі, кухань, бытавой тэхнікі і камплектуючых. І тут пачынаюцца цуды.

На самай справе фірмы нічога не выраблялі, а перанакіроўвалі заказы на адну вядомую мэблевую фабрыку. Пасля першых паспяховых кантрактаў, калі прадпрыемствы набылі добрую рэпутацыю, на іх пасыпаліся заказы (вядома, з перадаплатай). А затым у дырэктара ўсяліўся... дэман падману, які параіў распараджацца грашыма, як душа пажадае. Частку — сабе, частку — на рэкламу, на арэнду офісаў для работнікаў, каб кантрактаў усё большала і большала... Такім чынам былі патрачаны амаль чатыры мільярды рублёў.

Ішоў час, на прадпрыемствы перасталі паступаць сродкі. Дырэктар не хацеў ды, папраўдзе, і не мог ужо выконваць узятыя раней заказы, тым больш вяртаць людзям перадаплату.

Калі на махінатара завялі крымінальную справу за нанясенне грамадзянам шкоды ў асабліва вялікім памеры, дэман падману пакінуў мужчыну. Цікаўнасць да яго прапала, і той пайшоў шукаць сабе новых ахвяр, бо не сядзець жа без справы... Вось такая фантастыка. Ці рэальнасць?..

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## МІРАНІЗМЫ

### Карацейшая гісторыя





Не згаджаецца з папрокамі
Мацвей
І дае адказ
Сястры старэйшай:
— Не, вучыцца у ваш час
Куды лягчэй,
Бо гісторыя была ўсё ж
Карацейшай!

### Пытанні і адказы

На ўроку ў школе
Неяк раз
Настаўніцы
Сказала Таня:
— Не, я не ведаю
Адказ,
Затое знаю
Шмат пытанняў!..

### Аднаго разу замала



— Чаму ты, ўнучак,
Навучыўся ў школе? —
Бабуля Вольга
Запытала ў Колі.
— Пакуль нічому, —
Рукі той разводзіць, —
Казалі заўтра
Зноў туды прыходзіць.

*г. Віцебск.*





Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Памагаты і страты

### Байка



Бабёр пад восень дрэвы пілаваў,
Плаціну ён нястомна будаваў.
Цягаў штодня алешнік, вербалоз,
Усе галінкі да ракі прынёс.
Нарэшце ўзяўся і за бервяно,
Ды з месца не скранулася яно.
За гэтым збоку Заяц назіраў,
Не вытрымаў ды ўрэшце запытаў:
– Табе, напэўна, трэба памагчы
Цяжкое бервяно прывалачы?
Бадзёра Зай схапіўся за сучок,
Туды-сюды нагнуўся – брык ды скок –
Але не зварушыў і макавіну.
– Касы, ты лепш напніся, не скачы! –
Памочніку Бабёр заўвагу кінуў.
– Нішто сабе заява... Памаўчы!
Спрадвеку ў працы я не напінаўся, –
Адрэзаў Заяц ды ў лясок падаўся.

---

Бывае, трапіць гэткі памагаты,
Умела напускае пылу ў вочы.
Падумаеш: да працы ён ахвочы,
А возьмецца за справу –
толькі страты.

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

## Дагаварыліся




Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




### З 75-годдзем

Івана Канстанцінавіча СТАДОЛЬНІКА, беларускага пісьменніка. І. Стадольнік — вожыкавец са стажам. Адпрацаваў у часопісе больш за адзінаццаць гадоў. Вырас тут ад рэдактара аддзела да адказнага сакратара. Напісаў некалькі кніг гумару. З адной з іх — «Як тут не смяяцца» (1985) — дэбютаваў у «Бібліятэцы «Вожыка». Яго творы напоўненыя аптымізмам, цёплай усмешкай, добразычлівым гумарам.

Зычым Івану Канстанцінавічу жыццёвага і творчага даўгалецця, бадзёрага настрою, шчасця і радасці!



### З 60-годдзем

Аркадзя Трафімавіча ЖУРАЎЛЁВА, беларускага пісьменніка. З «Вожыкам» ён сябруе даўно: яшчэ са студэнцкіх часоў пачаў друкавацца ў ім з крытычнымі і сатырычнымі допісамі, гумарэскамі, апавяданнямі, мініяцюрамі. Мае шмат псеўданімаў: Аркадзь Шагакін, Рыбак Гаранскі, Трафім Асот, Аркадзь Лабаты, Алімпіяда Васілевіч і іншыя. Выдаў некалькі кніг гумару.

Жадаем Аркадзю Трафімавічу цікавых творчых знаходак, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах!

*Сяброўскія шаржы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*




Залатая жонка даражэй за золата.

**Нішто так не перашкаджае пагаджацца з чужой думкай, як уласная дурасць.**

Разумным людзям грошы — сродак для лепшага жыцця, неразумным — для горшага.

**Некаторыя ўмеюць грэць рукі не толькі каля печы.**

І летам цікава ведаць, дзе ракі зімуюць.

**Адпачываць дзікуном можа і культурны чалавек.**

Лепш плаціць за добрае, чым расплачвацца за дрэннае.

**У лёгкіх на пад'ём людзей часцей вырастаюць крылы.**

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*



## Анекдоты

— Чаму твой дзённік стаіць у куце? — пытаецца маці ў сына.
— Ён пакараны за двойку, — тлумачыць той.

* * *

— А я ведаю, чаму Міжнародны дзень абароны дзяцей святкуецца 1 чэрвеня! — кажа бацьку дачка-пяцікласніца. — Бо 31 мая ўсе школьнікі прыносяць дадому дзённікі з гадавымі адзнакамі...

* * *

З размовы паміж знаёмымі.
— Як справы ў вашага сына ў школе?
— Крыху лепей, але мы ўсё яшчэ працягваем наведваць бацькоўскія сходы пад чужым прозвішчам.

* * *

Калі робіш з дзіцём урокі, у галаву настаянна закрадаецца думка: «А я наогул вучылася?»

* * *

— Мікола, за што ты атрымаў двойку па матэматыцы?
— Настаўніца сказала знайсці X, а я не змог.
— Гэты X яшчэ з маіх часоў шукаюць, а ўсё ніяк не знойдуць!

* * *

На ўроку беларускай мовы.
— Сідараў, якія ты ведаеш прыстаўкі?
— Sony PlayStation 3, Nintendo Wii, Xbox 360...

* * *

Самы доўгі сон зарэгістраваны на ўроку гісторыі: вучань заснуў у пятнаццатым стагоддзі, а прачнуўся — у васямнаццатым.

Вернісаж





# Алегу ПАПОВУ — 60!

Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» шчыра віншуюць вядомага мастака-карыкатурыста, аўтара некалькіх дзясяткаў тысяч карыкатур, даўняга і актыўнага сябра выдання Алега Віктаравіча ПАПОВА з 60-годдзем і жадаюць жыццёвага аптымізму, бадзёрасці, мажорнага настрою (між іншым, А. Папоў яшчэ і адданы прыхільнік музыкі: іграе на бас-гітары ў ВІА «Вечная молодость»)!










## Лёля БАГДАНОВІЧ

# Што баліць у Васі?



Цішыня стаіць у класе –
У чаканні клас замоўк.
Каля дошкі Міцін Вася,
Ён не вывучыў урок.
А настаўнік паўтарае:
«Колькі будзе два у два?»
Вучань сумна пазірае:
«Мне балела галава...
Але заўтра, абяцаю,
Адкажу як мае быць,
Слова я сваё стрымаю...»
«Досыць, Вася, гаварыць,
Слухаў я цябе даволі,
Дзённік хуценька на стол!
Каб не хлусіў больш ніколі,
Я табе пастаўлю «кол»!»
Вася сумны, не смяецца,
Пакрысе стаў чырванець:
Зразумеў, якое месца
Будзе ўвечары балець...

*г. Барысаў.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Грыбныя размовы

## Фельетон



Восень ужо ўступіла ў свае правы. Невялічкая палянка, якіх у лесе вельмі шмат, была ўкрыта лісцем самых неверагодных колераў: жоўта-аранжавым, бардова-зялёным, чырвона-карычневым... Чуліся галасы зязюлі, стрыжа, шпака. Усё наваколле знаходзілася ў нейкай незвычайнай ідыліі.

Недзе ў глыбіні лесу пачуўся чалавечы гоман – і неўзабаве па палянцы прайшлі два грыбнікі.

– Ужо трэція за сённяшні дзень. Во расхадзіліся, дажджу на іх няма! – адкінуўшы вялікі дубовы лісток з капялюшыка, сказаў прыгожы, моцны Баравік.

– І не кажы, усё блукаюць і блукаюць. Так могуць нават наступіць ці, яшчэ горш, ботам галаву збіць, – падтрымаў яго зграбны, ладненькі Падбярозавік.

– Чаго вы хаваецеся? Каму вы патрэбны? Я тут стаю ва ўсёй сваёй празмернай прыгажосці, і то на мяне не глядзяць, – ганарліва заўважыў высокі Мухамор.

– Ой-ой, ды цябе есці небяспечна, таму ты нікому і не патрэбны, – хорам загаманілі ярка-аранжавыя ілжывыя Лісічкі.

– На сябе паглядзіце! У саміх атруты больш, чым у мяне, – пакрыўдзіўся той.

– Нас хоць нявопытныя грыбнікі бяруць, а цябе ўсе ведаюць...

– Ціха, ідзе нехта! – падаў голас Баравік.

Ізноў па палянцы прайшоў грыбнік.

– Вы тут спрачаецеся, хто больш атрутны, а між іншым, у Беларусі з пачатку года з-за вас каля дваццаці чалавек ужо ў бальніцы трапілі. Лідзіруе сталіца, там такіх вось небаракаў чатырнаццаць. У Мінскай і Брэсцкай абласцях зафіксавана па два выпадкі, у Віцебскай – адзін, – як толькі знік чалавек, прадоўжыў размову Падасінавік.

– А пры чым тут мы? Не я ж да іх у кошык лезу. Людзі не ведаюць, што за грыб, а зразаюць, – пачаў апраўдвацца Мухамор.

– Праўду кажа чырвоны, – падтрымаў яго Баравік. – Яны самі не клапоцяцца пра сваё здароўе! Таму атручванне грыбамі – самае распаўсюджанае сярод небактэрыяльных харчовых атручванняў.

– Ды ведаем, ведаем, – адказалі «Лісічкі». – Але і вамі, добрымі грыбамі, таксама можна атруціцца. Пра гэта людзі часта забываюць. Ці купяць невядома што каля дарогі, ці прыгатуюць дрэнна... А яшчэ маленькіх дзяцей вамі накормяць.

– О! Забыўся расказаць! З-за мяне мінулым летам цэлых пяць мінчан у крытычным стане трапілі ў бальніцу. І мяркую, што ў гэтым годзе столькі ж будзе, – схамянуўся Мухамор.

*Працяг на стар. 6.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.

— А я зусім нядаўна пачуў, што грыбамі атручваюцца з кожным годам усё менш і менш. Так што можаш марыць далей пра свой леташні паказчык, — не пагадзіўся Падбярозавік.

Нечакана недалёка храбуснула галінка. Баравік і Падбярозавік у адно імгненне схаваліся за мохам. Прайшоў яшчэ некаторы час — і на палянку выйшаў Лесавік. Строс лісце з галавы і плячэй, запытаў:

— Як вы тут, мае даражэнькія? Усё добра, ніхто вас не крыўдзіць?

— Лісічкі кажуць, што я непрыгожы, — імгненна ўспомніў былы папрок Мухамор.

— Не хвалюйся, яны табе зайздросцяць, — сказаў Лесавік і падміргнуў ілжывым Лісічкам.

— Усё добра і спакойна. Сёння ўжо чатыры разы каля нас прайшлі грыбнікі, а мы, як бачыш, цэлыя, — паведаміў Баравік.

— Паводзілі сябе як след, смецце не раскідвалі, з раслінамі і дрэвамі абыходзіліся з павагай? — пацікавіўся Лесавік.

— Здаецца, без асаблівых нараканняў, усё як звычайна, — адказаў Падбярозавік. — А ты чаму такі стомлены?

— Ды ў мяне самы час для беганіны. Я ж адзін на ўвесь гэты лес! Людзей шмат, а яны розныя бываюць. Хто смецце раскідае, а хто і дрэўца падвяжа... Ёсць такія, што нават без маёй «дапамогі» пачынаюць блукаць, — прысеўшы на пянёк, расказваў Лесавік. — Тут такія дні цяжкія бываюць, што, здаецца, ніколі не скончацца. Я нядаўна з калегамі сустракаўся, успаміналі былы грыбны год. Самыя цяжкія выхадныя ў нас былі ў пачатку верасня. Тады па лясах Беларусі блукала адзінаццаць грыбнікоў. Хтосьці сам вінаваты — няма чаго ў незнаёмым бары ў самы гушчар лезці, а кагосьці мы, лесавікі, заблыталі, так сказаць, у трох соснах, каб не шкодзіў у лесе.

Недзе зноў храбуснула галінка — і ўсе хутка схаваліся. Па палянцы прайшоў чарговы грыбнік, заўважыў некалькі ілжывых Лісічак. Нахіліўся над імі, расчаравана ўздыхнуў, вырваў некалькі з коранем, пакруціў у руках ды выкінуў, патэпаўшы далей.

— Вы гэта бачылі? Якая непавага, як так можна! — узрушана загаманілі астатнія ілжывыя Лісічкі.

— І сапраўды, — згадзіўся Лесавік. — Нічога, мае маленькія сябры, здаецца, сёння яшчэ адзін небарака будзе блукаць па лесе. У гэтым можаце не сумнявацца. А вы не хавайцеся больш: каму патрэбны старыя і трухлявыя грыбы? Вам зараз самы час трапіць у чый-небудзь кошык.

— Дзякуй табе, ахоўнік лесу. І сапраўды, чаму мы таімся? Больш не будзем, — амаль хорам адказалі жыхары палянкі.

— Тады ўважлівых вам грыбнікоў, — усміхнуўся Лесавік і знік.

Недзе ўдалечыні пачуліся чалавечыя галасы, і Баравік з Падбярозавікам на гэты раз ужо не хаваліся...



**Грыбныя размовы падслухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

# Перапалох




У сям'і маёй — перапалох.
Маці паглядзела ў дзённік: «Ох!»
Бацька кінуў позірк у мой бок:
«Малайчына! Так трымаць, сынок».
Брат старэйшы ляпнуў па плячы:
«Ты, відаць, урокі стаў вучыць?»

Сёння я — выдатнік, я — герой...
І гудзе сям'я, нібыта рой.
Ды заслуга, праўда, не мая
Ў тым, што атрымаў дзясятку я.

Поспеху такога б не займеў,
Але матэматык захварэў.
Практыкант прыйшоў на ўрок да нас —
І «выдатным» стаў адразу клас.

Ды такое шанцаванне — да пары:
Заўтра вернецца настаўнік наш стары.

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

# Мініяцюры



«Доктар! Ваш не спраўдзіўся прагноз,
Што праз тыдзень-два мяне не стане,
Бо паўгода з тых часоў прайшло –
Я жывы, здаровы, як спартанец.

Што гэта: памылка альбо здзек?..»
Доктар прызадумаўся на хвілю,
А пасля сказаў, нібы адсек:
«Значыць, вас няправільна лячылі!»



* * *

Ад холаду і стомы
(Зусім не важна, дзе)
Тапіўся ўрач вядомы,
Канечне ж, у вадзе.

Яго за чуб кароткі,
Падалей ад бяды,
Хлапчына хутка ў лодку
Дастаў рукой з вады.



Захутаўшыся ў полаг
І выпіўшы вінца,
Удзячны стаматолаг
Звярнуўся да хлапца:

– За тое, што ад згубы
Пазбавіў, дарагі,
Табе я вырву зубы...
І нават без чаргі!




* * *

Даўно разумею сам:
Склероз – гэта памяць клінам.
Аднак на душы бальзам,
Бо кожны дзянёк – навіны!

* * *

Я хворых падзяліў на два разрады.
Іх колькі па бальніцах ні лячы,
Адны любым пілюлям вечна рады,
Другім – заўсёды кепскія харчы.



* * *

Аднойчы думаў уначы,
Што лёс нікога не мінае:
Ёсць і бальніцы, і ўрачы,
А мы жывём, не паміраем...

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

# Афарызмы

*Школьныя настаўнікі маюць уладу, пра якую прэм'ер-міністры могуць толькі марыць.*

Уінстан Чэрчыль,
брытанскі дзяржаўны і палітычны дзеяч

*Каб навучыць іншага, патрабуецца больш розуму, чым каб навучыцца самому.*

Мішэль дэ Мантэнь,
французскі філосаф-гуманіст, пісьменнік




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.





Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ

## Дурнота



На справы свае,
Чалавек, паглядзі –
Усюды
Дурноты пячаць!

Мы вучым дзяцей
Размаўляць і хадзіць,
А потым –
Сядзець і маўчаць.

## Гватэмала

Падручнік неяк раз
Алёнка прачытала
І так сказала:
– Не уцяміла нічога.
Напісана, што ёсць краіна
Гватэмала,
Але ні слова пра дзяржаву
Гватэмнога.

## Раменная перадача



Іншым разам
Наяве бачу:
Бацька з дзягаю
Паўстае –
Праз раменную
Перадачу
Сыну веды ён
Перадае...

## Законы

Сказаў настаўнік,
Што вучоны
Адкрыў
Шматлікія законы.
Спытаў Уладзік,
Не ўтрываў:
– Хто ж перад тым
Іх закрываў?




*г. Віцебск.*

Малюнак
Алега ГУЦОЛА.








Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэмы Валянціны КАСЯК.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Мімаходзь

■ Жыццё абітурыента – як шкатулка: больш, чым пакладзеш, не возьмеш.

■ Калі цярпенне педагога лопаецца, рэпутацыя адразу падмочваецца.

■ Пачаўшы ўніверсітэт не з таго, не тым і скончыў.

■ Прааналізаваўшы разгледжанае, вучні перайшлі да разгляду прааналізаванага.

■ Нічога не свеціць у жыцці? Магчыма, ты не здолеў запаліць сябе ў школе...

■ Калі я правільна памятаю, вучні пра гэта яшчэ ў мінулым навучальным годзе забыліся.

■ На ўроку не было пра што маўчаць, таму і разгаварыліся.

■ Настаўнікі прымаюць вучняў такімі, якія яны ёсць. Але перарабіць іх усё роўна рукі свярбяць.

**Заўважыў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*




Міхась СТРАЛЬЧЭНЯ

## ЯМА КАЛЯ БРАМЫ

*(Казка без канца)*




Капач-экскаватар,
На ямы аматар,
Капаў каля брамы
Глыбокую яму.

А снег калі выпаў,
Вярнуўся да брамы
І хутка засыпаў
Гатовую яму.

Як снег пачаў таяць,
І зноў завітаў ён,
Пад'ехаў да брамы
І выкапаў яму.

Калі ж прайшло лета,
Капальнік зноў гэты
Да брамы прыклыпаў
І яму засыпаў.

Прыйшла зноўку
восень,
Капач гэты — вось ён.
Стаіць каля брамы,
Капаючы яму.

*«Вожык», № 23, 1978 г.*



*— На першае вяселле мы Жорыку падарылі матацыкл, на другое — машыну, а цяпер што будзем дарыць?*

Малюнак М. ГІРГЕЛЯ,
*«Вожык», № 2, 1977 г.*




*— Навошта вы паступілі ў наш інстытут, вы ж матэматыкі не ведаеце?*
*— А гэта вы спытайце ў маіх бацькоў.*

Малюнак А. БЯРКОВІЧА,
*«Вожык», № 17, 1983 г.*

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

## Зіна мая...

*Іранічная лірыка*



Пахнуць твае вусны нікацінам,
Зіна мая, сэрца маё, Зіна!
А на вуснах гэткі слой памады,
Пацалую — буду сам не рады.

Настаўляць, вучыць цябе не стану,
Скрыта не ўсміхнуся, калі гляну.
Ты падклеіла, здаецца, вейкі?
Ну, вядома, гэта не навекі,
Давядзецца часам праслязіцца,
Як тут чорнай фарбе не размыцца?
Сівізна на валасах, бы нарасць.
Ну, навошта ж імітуеш старасць?
Прыйдзе яна, прыйдзе нечакана,
Падмалоджвацца пачнеш старанна...
Застанецца пах той нікаціну,
Зіна мая, сэрца маё, Зіна...

*«Вожык», № 3, 1978 г.*

---

Вацлаў ХАДАСЕВІЧ

## ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА



— Чаму два дні не быў у школе?! —
Спытала класная ў Міколы.
Міколка, ў гульнях хлопец вёрткі,
Сказаў: — Памыла мама порткі.
І, пагартаўшы каляндарык,
Дадаў: — Ды нешта прыхварэў мой Шарык.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Бацькава парада

Бацька ўшчувае дарослага сына:

– Пятрок, табе неўзабаве споўніцца трыццаць. Чаму ніяк не ажэнішся?



– Ды нявесту не магу знайсці, – апраўдваецца той.

– У твае гады трэба шукаць нявесту там, дзе яе нехта страціў, – параіў бацька.

**Падслухаў**
**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён, г. п. Уваравічы.*

## Раман і драма

Дырэктар фірмы закахаўся ў сакратарку. Так пачаўся службовы раман.

Пра здраду даведалася жонка. Настала сямейная драма.

## Апраўданне

Жонка дакарае мужа:

– Ты такі няўклюда! За што ні возьмешся, усё ў цябе валіцца з рук.

– А вось і няпраўда, – аднекваецца той. – Лыжку я моцна трымаю.

## Задарма

– Чаго ты так рана падняўся ў выхадны дзень? – пытаецца баба ў дзеда.

– Кажуць, што таму, хто рана ўстае, Бог дае. Вось я і думаю: а раптам пахмялюся задарма?



## Прафесіянал

– Адамчук – прафесіянальны пілот. Перажыў пяць авіякатастроф і нават не пакалечыўся!



**Даслаў**
**Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*

## Салодкая жанчына

Васіль пытаецца ў каханай:

– Ганна, ты цыбулю любіш?

– Так.

– А часнок?

– Так.

– Ах ты мая салодзенькая!

**Пачуў**
**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




*Адукацыя – гэта тое, што застаецца пасля таго, як забываецца ўсё вывучанае ў школе.*

Альберт Эйнштэйн, нямецкі вучоны-фізік

*Ты ніколі не будзеш ведаць дастаткова, калі не будзеш ведаць больш, чым дастакова.*

Уільям Блэйк, англійскі паэт і мастак

*Тое, што ведаем, – абмежавана, а тое, чаго мы не ведаем, – бясконца.*

П’ер Лаплас, французскі астраном, матэматык і фізік




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.




## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### За што я люблю рыбалку, або Русалка ў жыце

*Маліналю вусны*
*Гараць-пунсавеюць...*

* * *

*Мне светла ад вуснаў*
*І... крышачку грэшна...*

* * *

*Жыта палягло, нібы русалкі*
*Чарадою гойсалі па ім...*

Анатоль ЗЭКАЎ

Быў шчаслівы і крышачку п'яны,
Калі ў полі спаткаўся з табой.
Асалодзе юрлівай дурману
Дадаваў хваляў жыта прыбой.

Палягло жыта — нібы русалкі
Чарадою гайсалі па ім...
Бляск вачэй тваіх вабліва-палкі
Помню толькі. І вуснаў-малін

Палымянасць пунсовую. Стала
Светла мне ад такога агню.
Грэшна крышачку: жонцы сказаў я,
Што ніколі ў жыцці не зманю.

Сам нібыта пайшоў на рыбалку,
Карасёў на вячэру лаўлю...
Ды папалася ў жыце русалка —
Вось за што я рыбалку люблю!



## Анатоль ЗЭКАЎ

### Чаго ты хочаш?

*Раніцою з прамяністай верай*
*Да цябе пастукаюся ў дзверы.*
*...*
*Дакрануся рук тваіх і шчочкі.*
*Пацалую раз і два разочкі.*
*Вершы напішу я ў твой блакноцік.*
*Пачытай, пацешся, мілы коцік.*

Генадзь ПАШКОЎ

Раніцою, ледзьве ўзыдзе сонца,
Грукну смела я ў тваё аконца.
Не адчыніш — з прамяністай верай
Да цябе пастукаюся ў дзверы.

Не крыўдуй, што не з'явіўся ночкай
Рукі цалаваць твае і шчочкі
Раз, другі, а можа, нават тройчы...
Пачакай, чаго яшчэ ты хочаш?

Бачу ж сам, што разаслала ложак...
Толькі тут я вельмі асцярожны.
Ведаю: калі з табой прыляжаш,
То сябе на ўсё жыццё прывяжаш.

Лепей я пра тое, мілы коцік,
Вершык напішу табе ў блакноцік.
Пачытай, пацешся — днём ці ўночы,
Можа, большага тады і не захочаш.



Малюнак
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







— Зайцаў, чаму ўрокі за цябе заўсёды робіць бацька? — пытаецца настаўнік.

— А ў маці вольнага часу няма...

* * *

— Вось зараз як панастаўлю вам двоек, Марыя Іванаўна! — зларадна зазначыў выпускнік, заходзячы на старонку былой настаўніцы ў «Аднакласніках».

* * *

— Пятроў, ты з цяжкасцю лічыш да дзесяці. І кім жа пойдзеш працаваць з такімі ведамі?

— Суддзёй па боксе, Ірына Мікалаеўна!

* * *

Камп'ютар не дапамагае ў вучобе. На

## Віктар КУНЦЭВІЧ

### Я і ты

*Так, згадалася былое,*
*Выйшла з чорнай пустаты.*
*Там, было, блукалі двое,*
*А дакладней – я і ты.*

Мікола МЯТЛІЦКІ

Мне згадалася былое,
Нібы ўбачыў праз кусты,
Як калісь блукалі двое,
А дакладней – я і ты.

Сцежку неўпрыкмет тарылі
І пад зоркамі ўначы
Шмат аб чым мы гаварылі,
А дакладней – ні аб чым.

Мы ішлі пад Шляхам Млечным.
Я ад шчасця аж п'янеў.
Абдымаў цябе за плечы,
А дакладней – дык і не.

На цябе глядзеў спакусна
І шаптаў, што ты – мая.
Цалаваў салодка ў вусны,
А дакладней – то й не я.

Мовіла: «Дзіця чакаю.
Рада гэтаму ўдвая».
Можа, бацька й я – не знаю,
А дакладней – не, не я!



### Лясная казка

*У бары – баравікі,*
*Дома – рыжыкі...*
*Ад мужчынскай рукі*
*Па целе дрыжыкі.*

Мікола ШАБОВІЧ

Так хачу баравікоў...
Жонка варыць рыжыкі.
Сам я стану грыбніком!
Папярэдне потайкам
Згаварыўся з рыжанькай.
Мы з ёй кошыкі пад куст,
На мурог – і ціскаемся.
Адшукаць спрабую бюст,
Ды няма яго. Ой-ю!
І рука мужчынская...



*г. Магілёў.*

### Пахі багоў



*Якія сцяжыны за намі*
*Рыхтуе Сусвету сувой?*
*Афіны прапахлі багамі,*
*Як нарацкі човен луской...*

Аляксандр БЫКАЎ

Не быў я ніколі ў Афінах
І ў Грэцыі нават не быў.
Ды бачыў багоў на карцінах,
Таму іхні пах уявіў.
Блінамі, відаць, пахне Гера,
Азонам – магутны Зевес,
Афіна – парфумай і серай,
Грашмі патыхае Гермес.
Марскою вадой – Афрадыта,
Аід бы з трупярні прыйшоў,
Звярыны пах у Артэміды,
Адметны між іншых багоў.
Я з водарам, можа, даў маху,
Ды ўсё ж не хачу «за бугор»:
Няма мне мілейшага паху,
Чым вэнджаны тлусты вугор!

**Ала КЛЕМЯНОК,**
*г. Смаргонь.*

---

паспяховасць школьніка ўплывае толькі абяцанне яго набыць.

* * *

– Лёша, у цябе выдатнае сачыненне! Аднак чаму ты яго не скончыў? – пытае настаўнік.

– Бацьку тэрмінова выклікалі на працу...

* * *

Цяпер некаторыя праводзяць на сайце «Аднакласнікі» больш часу, чым некалі ў школе.

* * *

Супрацоўнік ДАІ спыняе машыну. За рулём аказваецца яго былая настаўніца.

– Добры дзень, Ларыса Мікалаеўна! – узрадавана вітаецца даішнік. – Даставайце ручку, паперку і пішыце сто разоў: «Я больш ніколі не буду парушаць правілы дарожнага руху».




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Навіны з МУС: матай на вус…




## Фокуснік-няўдачнік

***Гродзенскі раён.*** Чаго толькі не дастаюць фокуснікі са сваіх капелюшоў, кішэняў і рукавоў. Бывае, дзіву даешся, як там гэта ўсё змясцілася! Сакрэтаў нiхто з іх не раскрывае, толькі калі сам дадумаешся, разгадаеш чароўную загадку.

Адзін расіянін вырашыў паказаць польскім мытнікам «фокус»: правезці ў Беларусь 104 кілаграмы гашышу. Для выканання трука ён выкарыстаў уласны аўтамабіль, дзе пад абшыўкай дзвярэй, у калёсных арках і днішчы схаваў 135 пакетаў з наркотыкам.

Але яго «фокус» хутка разгадалі з дапамогай службовага сабакі, канфіскавалі гашыш і аўтамабіль, якія ацанілі на суму больш за 800 тысяч долараў.

Няўдаламу трукачу пагражае да 15 гадоў зняволення. Дастатковы тэрмін, каб прыдумаць новыя, законныя «цуды».



## Па крузе

***Жлобін.*** Бывае так, што чалавек ніяк не можа знайсці выйсце з нейкай сітуацыі і быццам ходзіць па замкнутым крузе. Вось і мясцовая бухгалтарка, аднойчы пабываўшы ўжо ў турме за махінацыі з грашыма, зноў узялася за старое. Хоць прайдзісветка і не мела права займаць такую пасаду, але з-за няўважлівасці наймальнікаў стала працаваць у арганізацыі бухгалтарам.

На новым месцы яна ўзнавіла чорныя справы. І зноў жанчыну заўважылі міліцыянеры.

Ашуканка вярнула прысвоеныя грошы, але гэта ўсё роўна не пазбавіла яе ад адказу. Жанчына можа вярнуцца за краты. Круг замкнуўся.




## Недзіцячыя мары

***Гродна.*** Пра што мы марым у дзяцінстве? Дзяўчынкі – пра лялькі, мяккія цацкі і прыгожыя сукенкі. Хлопчыкі ж жадаюць мець модныя машынкі, пісталеты, канструктары і, безумоўна, веласіпед.

Марыў пра яго і сямікласнік. Але, на жаль, двухколавага сябра яму ніхто не купляў, не дарыў. Таму хлопчык пайшоў на злачынства. Убачыўшы на вуліцы пакінуты без нагляду веласіпед, сеў на яго – і наўцёкі.

Праз некалькі дзён на школьніка выйшлі гродзенскія аператыўнікі, канфіскавалі ўкрадзены сродак перамяшчэння. Малому злодзею пагражае крымінальная адказнасць. Здаецца, пазбегнуць яе – яго новая мара.

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ

## Дзень адчыненых дзвярэй



– Скажы, –
Дапытлівы Андрэй
Спытаў аднойчы
Сябрука, –
А дзень
Адчыненых дзвярэй
Прыдумалі
Для скразняка?

## Віншаванне

– Вас, тата з мамай,
Можна віншаваць! –
Сказаў, калі прыйшоў
Са школы, Вася. –
Падручнікаў
Не трэба мне купляць –
Яшчэ на год
Застаўся ў сёмым класе!



## Дзяга

Пра рэч гэтую
Скажу вам без маны –
Не абыдзешся без дзягі
Сёння ў хаце:
У бацькоў
На ёй трымаюцца штаны,
А у школе –
Паспяховасць у дзіцяці.

## Пірамідон

– Я думаю:
Пірамідон, –
Сказаў Кастусь
Сястрычцы Лідзе, –
Той старажытны
Фараон,
Што пахаваны
Ў пірамідзе.




*г. Віцебск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## ТРЭНІНГ



І зімой, і цёплым летам
Два каты-аўтарытэты
Гойсаюць паміж двароў –
Спраўна ловяць пацукоў.

Хоць абодва – нібы сажа,
Ды пра іх ніхто не скажа,
Што няшчасце выклікаюць,
Калі шлях перабягаюць.

Выхаванцы нашы з рання
За гарод на паляванне
Кожны дзень ахвотна ходзяць,
Мышак палявых там ловяць.

Палігон ім даспадобы,
Гэта трэнінг вельмі добры.
Папалююць – і дамоў:
Зноў ганяюць пацукоў!

## ШЧЭ НА ГАРЫ НЕ СВІСНУЎ РАК...

Развітвацца балюча з маладосцю:
Сыходзіць – і назад гукаць дарма.
Нуда штодня наведваецца ў госці,
І паратунку ад яе няма.

З люстэрка пазірае незнаёмка –
Здаецца, нават вочы не мае.
Няўмольны час нацягвае пастронкі,
На твары сетку зморшчынак уе.

Але ж душа ані не пастарэла
І з часам не згаджаецца ніяк.
Таму скажу ўсё ж старасці я смела:
– Шчэ на гары маёй не свіснуў рак!



*г. Барысаў.*




Дрымучы лёс.
Запаветныя хмары.
Куля з макам.
Курым на смех.
Налажыць вінт.
Пералётная тушка.
Пуза паэта.
Распітае каханне.
Тлумачальны слонік.
Тэнісны кот.
Хірургічнае замяшанне.

**Заўважыла Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міколы НАВАРЫЧА.




Пад восень неяк маладзіца
Сабе прыдбала парася.
Суседкам пачала хваліцца:
«Цяпер у працы буду ўся!
Праз год займею мяса, сала,
Бо я ж не нейкі там лайдак...»
Сваю скацінку даглядала,
Ды штосьці ўраз пайшло не так.
Спаць да абеду звычку мела,
Бы не жанчына, а сурок.
Не чула, што, як ашалелы,
Вішчыць галодны парсючок.
Пасля – прычоска для настрою,
І макіяж, і манікюр.
Сукенка моднага пакрою...
Яна ж не птушніца ля кур!
З сяброўкай трэба павітацца,
Навіны ўсе абмеркаваць.
Калі ж тут парсюком займацца?
Ужо цямнее. Хутка спаць.
Не выйшла добрай гаспадыні
З тае кабеты – што казаць.
Відаць, бацькі не прывучылі
Яе з дзяцінства працаваць...

**Ірына ЯЎЛАНАВА,**
*г. Орша.*

**Віталь ЖУРАЎСКІ**




*З натуры*

Васіль, вясковы жыхар, дзень і ноч завіхаўся па гаспадарцы: трымаў курэй, парсючкоў, карову. Яго брат Гена жыў сабе спакойна ў горадзе і дапамагаць сваяку вялікай ахвоты не меў. Але на свежаніну наведваўся кожны раз.

Стаяла ранняя восень, да халадоў было далёка, а Гена ледзь не кожны дзень па тэлефоне даймаў брата: маўляў, калі ўжо будзем калоць? Васіль урэшце не вытрымаў і адказаў: «Угаварыў, прыязджай заўтра!»

Гараджаніна доўга чакаць не спатрэбілася: з самай раніцы Гена на нагах, сноўдаецца ў прадчуванні і шкваркі, і чаркі. А Васіль выйшаў з паветкі з дзвюма сякерамі ў руках, адну з іх працягнуў брату:

– Ну, ты хацеў калоць, дык пайшлі.

– Сякерай? – здзівіўся той.

– А чым жа яшчэ? Вунь колькі дроў ляжыць, трэба пакалоць на зіму, – хітра ўсміхнуўся Васіль, паказваючы на гару бярозавых цурак.

*г. Жодзіна.*




*Слабасць розуму і (звярніце ўвагу) характару многіх вучняў і дарослых людзей залежыць ад таго, што яны ведаюць усё абы-як і нічога як след.*

Фрыдрых Дыстэрвег, нямецкі педагог

*Мудры – той, хто ведае патрэбнае, а не многае.*

Эсхіл, старажытнагрэчаскі паэт-драматург

*Задаючы дамашнія заданні, настаўнікі цэляць у вучняў, а трапляюць у бацькоў.*

Жорж Сіменон, французскі пісьменнік




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Супер-бульбашы



Бульбашамі мы завемся
І нікольκі не злуемся,
Бо любому беларусу
Гэткае меню па густу.
Наварыў каструлю з рання –
На ўвесь дзень падмацаванне.
Лепшая да бульбы страва –
Халаднік. Вось гэта справа!
А яшчэ грыбоў, капусты,
Агуркоў крамяных, хрумсткіх,
Соленых ды квашаных
Смачна з'есці з кашаю.
Маці дранікі пячэ,
Хочацца яшчэ, яшчэ...
Са смятанай, з салам –
Ешце да адвалу!
Каму бульба даспадобы,
Той не ведае хваробы.
Ешце бульбу з намі –
Супер-бульбашамі!

**Станіслаў КУРЫЛА,**
*Астравецкі раён,*
*в. Варняны.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.

**Нэла ЛОСЬ**

## Жонка-разумніца



*Гісторыйка*

Галіне даўно надакучыла, што муж часта ходзіць з сябрамі ў лазню. Іншы раз ледзь жывы вяртаецца, яшчэ і апоўначы. Скандаліць яна не хацела, таму ўрэшце вырашыла гэтае пытанне чыста па-жаноцку: узяла ды абшыла мужавы «сямейнікі» карункамі.

Раман нічога не заўважыў, забраў бялізну і пайшоў у лазню. Калі ж пачаў распранацца, сябрукі ўбачылі яго незвычайны ўбор. Яны так зарагаталі, што той вымушаны быў уцячы з кампаніі.

Дома Рамана чакала жонка-прыгажуня. На стале стаяла смачная вячэра. Лаяцца яму зусім расхацелася. І праўда: навошта таўчыся ў пракуранай мужыцкай кампаніі, калі дома так добра і ўтульна?..

*Пастаўскі раён,*
*г. п. Лынтупы.*

## «ХВАРОБА»



Забалеў жывот у Валі,
Да яе ўрача пазвалі.
Тэрапеўт агляд правёў,
Ды хваробы не знайшоў.
Потым з белае паперкі
Сыпануў у лыжку «лекі».
Шэпча бацьку: «Вітамінкі,
Карысць будзе для дзяўчынкі».

Валя ўсмак той сродак з'ела
І ураз «паздаравела».
А назаўтра раніцой:
«Зноў баліць жывот, ой-ёй!
Татка, прынясі з аптэкі
Учарашнія мне лекі».
Той на кухні ўзяў з талеркі
Ледзянцовыя цукеркі,
Пакрышыў у парашок
І насыпаў у кулёк.

Хітрасць бацька разгадаў,
Перцу ў парашок дадаў.
«На, дачушка, каўтані,
Злую немач прагані!»
...Болей не вярталася «хвароба»:
Сродак Валі быў не даспадобы.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.

## Аляксей РУСІНОВІЧ

# БЫЛІ

### Хто каго?



Адна кабета прыйшла купіць груш да дзеда, які меў свой сад. Спачатку лагодна пагаварылі, бо былі даўно знаёмыя. Потым дзед пачаў выкладваць фрукты на вагі. Кабета ж спрытна брала грушу за грушай і абрывала хвосцікі. Глядзеў стары на кабету, глядзеў ды не вытрымаў:

– Не глуміся, маладзіца, над грушкамі, я яшчэ далажу!

А сам падумаў: «Аказваецца, і больш сквапныя, чым я, людзі ёсць!»

### Карацейшыя вёрсты

Дзед Сяргей усё жыццё быў паляўнічым. Нейкі час нават жыў у Сібіры. Да яго любілі прыходзіць дзеці, каб паслухаць розныя гісторыі.

Аднойчы запыталі:

– Дзед, а колькі кіламетраў даводзілася праходзіць на паляванні?

– Ды дзесьці вёрст восемсот.

– Гэта ж вельмі многа! Не можа такога быць, – не паверылі яму малыя.

– Можа. У Сібіры ж вёрсты карацейшыя, чым у нас, – адказаў дзед, хітра прыжмурыўшы вока.



### Няма калі



Мужчына ішоў у магазін, які знаходзіўся ў суседняй вёсцы. На дарозе ўбачыў дзвюх жанчын. Калі падышоў да іх, то пачуў, як адна сказала другой: «Ну, добра, пабягу, бо няма калі, спяшаюся!»

Праз тры гадзіны вяртаўся назад. На дарозе стаялі тыя ж жанчыны. «Ой, хопіць, трэба разбягацца!» – пачуў ён, параўняўшыся з імі...

*Светлагорскі раён, в. Пятровічы.*

## Хутчэй дахаты!










Міні-комікс Аляксандра ПЯТРОВА.




Ого-го-го-го-о-о!!!

Ого-го-го-го-о!!!

Казёл!

Сам ты казёл!!!

Міні-комікс Алега ГУЦОЛА.




### Хопіць прыгажосці!

Маці заплятае Ірынцы коскі. Дзяўчынка енчыць, скардзіцца, што балюча.

– Цярпі, царэўна, прыгажосць патрабуе ахвяр, – заўважае маці.

– Ну, тады хопіць з мяне прыгажосці. Нацярпелася! – махае рукою Ірынка.



### Непажаданая інфармацыя

– Як хутка бяжыць час! Ужо праз нейкі годзік мая ўнучачка пойдзе ў школу, – разважае бабуля ўслых.

Марынка, незадаволена:

– Умееш ты, бабулечка, сапсаваць настрой чалавеку!..

### Адчуў сябе вінаватым

На вуліцы непагадзь. Дзядуля глядзіць у акно, сумна ківае галавой:

– І што гэта з надвор'ем сёння?

Унук Віталік спалохана апраўдваецца:

– Дзядуля, я нічога не чапаў!..



### Да доктара

Маленькі Ігар падчас сняданку апёк гарачай гарбатай язык. Бабуля Ганна пачала мітусіцца, суцяшаць хлопчыка. Малы спыніў яе:

– Не хвалюйся, бабулька! Вядзі мяне ў паліклініку да доктара-языколага.

### Каша і замужжа

– Светачка! Калі ты не з'ясі кашу, мы не пойдзем ні ў краму, ні ў цырк, ні ў кіно, – палохае дачку бацька.

Дзяўчынка, здзіўлена:

– Дык што, мне тады і замуж нельга будзе ісці?

**Запісаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,** *г. Віцебск.*

---

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**




### Важкая прычына

– Навошта ты, Антось,
Паклаў на лоб кампрэс? –
Спытаўся дома ў брата
Старэйшага Алесь.

– Мо доктара паклікаць?
– Ды не... – сказаў Антось. –
Са сходу тата прыйдзе
Бацькоўскага вось-вось.



### Мама і Ганька

– Што ж ты неслух, Ганька,
У мяне такая?
З-за цябе, дачушка,
Стала я сівая.

– Ах, не злуй, матуля,
Ты ж была такою,
Раз мая бабуля
З белай галавою.

### Ведаюць каты

– Тата, – сын пытае, – мышы
Шмат ці не жывуць гадоў?
– Запытаць пра тое, Міша,
Нам патрэбна у катоў.



### Каб не пастарэць

– Ты не ведаеш нічога, –
Кажа дзед Андрэю.
– Дзед, а буду ведаць многа,
Рана пастарэю.



Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Цікавае пытанне

*З натуры*



Дзед з унукам, які першы раз прыехаў з горада ў вёску, пайшлі ў поле па карову. Забралі яе са статку і гоняць дадому. Карова ідзе ўперадзе, а дзед і ўнук ледзь паспяваюць за ёй. Жывёла сама зайшла ў двор, засталося толькі зачыніць вароты.

Унук здзіўлена пытаецца:

– Дзядуля, як яна знайшла дарогу дамоў: у яе ж няма навігатара?

**Запісаў Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## Палічы



З ясеня вавёрка – скок
І бяжыць да маіх ног.
Быццам выдала кішэня,
Што ў мяне арэхаў жменя.
На далонь паклаў арэх.
Хоп вавёрка – і наверх.
Хуценька яго там з’ела,
Ўніз шкарлупка паляцела.
А затым як сігане
І па снезе – да мяне.
Ёй не страшны зімні холад,
Смелай быць прымусіў голад.
Я яшчэ паклаў ёй тры:
– На, частуйся, мы ж сябры.
І пасля пакінуў шэсць:
Без мяне вавёрка з’есць.
У дупле ў салодкім сне
Ўспомніць, можа, пра мяне...
Колькі даў я ёй арэхаў,
Калі ўчора ў лес прыехаў?

(Дзесяць.)

## Топ-мадэль













Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Мікола МАЛЯЎКА**




## Плотачка

Тая, што не мае
Дома карася.

Бачу, як красуе,
Бачу, як цвіце
За сталом вясельным
Плотачка ў фаце!..

Для мяне, як родны,
Для мяне адзін
Ён любімы самы,
Гэты магазін.

Для мяне, як родны,
Для мяне адзін
Ён любімы самы,
Гэты магазін.

Беленькія лодачкі,
Беленькі халат...
Разбіраюць плотачак
У дзеўкі нарасхват.

І сама, як плотачка,
Беленькая ўся.
Кажуць, што не мае
Дома карася.

Я з яе не зводжу
Ні на міг вачэй –
Хай бы разабралі
Плотачак хутчэй!

Засталася б толькі
Беленькая ўся –



Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ,
тэма Міколы НАВАРЫЧА.




Адаліска – лíслівая жанчына.
Адважыцца – вымераць вагу.
Адвакат – двойчы кат.
Адзеты – пошук.
Азарыцца – закапацца.

**Даслаў Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

Бісквіт – паўторнае вітанне.
Варштат – штат кухараў у рэстаране.
Верхаводка – спартсменка на водных лыжах.
Драпаць – правяраць драп на трываласць.
Завяршыць – закончыць пісаць вершы.
Карпець – лавіць карпаў.
Ліняць – лавіць лінёў.
Лянота – нота ля.
Малюнак – нізкаросла юнак.
Чапляць – лавіць чаплю.
Шараваць – надзімаць шары.
Экскаватар – былы аматар кавы.

**Расшыфраваў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

**Зоя НАВАЕНКА**

## Капуста патрэбна?

*Быль*

У даўно мінулы вераснёўскі дзень да нас у школу прыехала працаваць настаўніца Алена Рыгораўна Капуста. І наўрад ці я ўспомніла б цяпер яе прозвішча, каб не гэтая гісторыя.

Неяк восенню нашаму загадчыку РАНА патэлефанавалі з вобласці і паведамілі, што настаўніца Капуста павінна тэрмінова прыехаць з дакладам у Мінск. Маўляў, выпісвайце камандзіроўку, выплачвайце грошы...

Дзейнічаць трэба было хутка. Загадчык пазваніў настаўніцы дахаты. Там адказалі, што яна пайшла ў музычную школу.

Патэлефанаваў хуценька туды:

– Капуста там у вас?

– У нас! У нас! – весела адказала сакратарка.

За акном каля машыны, якая прывезла з калгаса капусту, якраз сабраліся настаўнікі.

– Калі ласка, прытрымайце яе. Хутка буду ў вас!

Сакратарка, паклаўшы трубку, выскачыла на вуліцу і строга папярэдзіла піяніста, што трымаў у руках спіс:

– Алег Сідаравіч, званіў загадчык РАНА і прасіў сказаць, што прыедзе па капусту.

– Якую капусту? – здзівіўся настаўнік. – У спісе яго няма. А колькі яму трэба той капусты? Усю ўжо разабралі па мяхах. Але ж трэба неяк выходзіць са становішча: сам загадчык прыедзе...

*Працяг на стар. 22.*

## Пад вуглом 40°




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Валянціны КАСЯК.

### Прызнанне



Ты узнікла сільфідаю-феечкай,
Штось з-пад вока «свяціла» ўначы.
Адшукалася нават капеечка,
Каб здароўе ўдваіх «падлячыць».

Ў нейкай хаце знайшлі «саматужную»:
«Касарылаўку» ці «самапляс»...
Ты б пацэліла у калюжыну,
Каб пад вокам «ліхтарык» не згас.

Ясны золачак стрэлі мы параю
Пад ядлоўцам ля нечых «палат».
Нас пад раніцу зыркаю фараю
Асвяціў міліцэйскі нарад.

Ў спецпрыёмнік мы з ім пракаціліся,
Колькі тыдняў там бавілі час.
І суседкі твае клапаціліся,
Каб «ліхтарык» пад вокам не згас.

Вось яшчэ дзень і ноч пратрымаемся –
І да доўгай расстання пары
Папляцёмся і захістаемся,
Пойдзем зноўку шукаць ліхтары.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

**Міхась СЛІВА**

### Усмешкі

– Ты куды? – пытае Антон у п’янага сябра.
– На лекцыю.
– Якую яшчэ лекцыю?
– Жонка будзе чытаць.

* * *

Ганна распякае мужа:
– Ты ж як вып’еш, дык пачынаеш вярзці глупства!
– Яшчэ невядома, які фартэль выкінула б ты, каб выпіла столькі, колькі я! – адказвае той.

* * *

– Анатоль, чым, па-твойму, культурны чалавек адрозніваецца ад некультурнага?
– Культурны, распіўшы паўлітэрку віна ў пад’ездзе з суседам, ніколі не пакіне пустую бутэльку на падаконніку.

* * *

Антон расказвае сябру:
– Пазнаёміўся з дзяўчынай: не курыць, не п’е...
– Нічога, – супакойвае сябар, – недахопы ёсць у кожнага.

*«...і мора па калена»,*
*Мн., 2014 г.*

---

Заканчэнне. Пачатак на стар. 21.

Піяніст растлумачыў сітуацыю астатнім настаўнікам. Яны падаставалі са сваіх мяхоў па качану капусты і напоўнілі пусты мех. Калі неўзабаве пад’ехаў загадчык РАНА, то з палёгкай уздыхнулі: справіліся!

Той вылез з машыны і хутка падышоў да педагогаў:
– Добры дзень. Мне сказалі, што Капуста тут.
– Так. Але ж мы не ведалі, што яна вам патрэбна, – пачаў апраўдвацца піяніст.
– Патрэбна, вельмі патрэбна!



– Ды мы і самі маглі б падвезці яе.

Якраз у гэты час на ганак школы выйшла Капуста. Убачыўшы настаўніцу, загадчык стрымгалоў кінуўся да яе:

– Алена Рыгораўна, хуценька ў маю машыну! Па дарозе ўсё растлумачу. Пакуль няма калі. Бухгалтэрыя хутка зачыняецца...

Настаўнікі музычнай школы неўзабаве разышліся па хатах, забраўшы сваю капусту. Адзін мех з адборнымі сакавітымі качанамі так і застаўся сіратліва стаяць на вуліцы. Піяніст глядзеў на яго і не разумеў, чаму загадчык забраў настаўніцу, а капусту, пра якую так перажываў, не.

Якое прозвішча ў новай настаўніцы, ніхто яшчэ не ведаў...

*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

## Аляксей БУЦЬКО

## Усе жывыя!

Пенсіянеры Пятро і Ганна падняліся з пасцелі, як звычайна, рана. Жонка пайшла на кухню гатаваць снеданне, а муж патупаў у залу, каб зрабіць міні-зарадку. Памахаўшы рукамі і нагамі, папрысядаўшы, стары канчаткова прачнуўся. Затым падышоў да акна і расчыніў яго, каб дыхнуць свежага паветра.

На дварэ яшчэ стаяла зімовая цемра, бо снегу амаль не было. Каля другога пад'езда суседняй шматпавярхоўкі Пятро заўважыў бела-чырвоны аўтамабіль. Нейкае дрэннае прадчуванне ўзнікла ў душы.

– Ганка! Мабыць, жанчына, да якой часта хуткая дапамога прылятала, памерла, – прыбег ён на кухню.

– Чаго гэта?

– Паглядзі ў акно. Машына да самых дзвярэй пад'ехала. Відаць, каб нябожчыцу было бліжэй несці.




Жонка адхінула фіранку, зірнула на суседні дом.

– Сапраўды, тая жанчына ўжо даўно на балкон не выходзіла, – пацвердзіла яна падазрэнні мужа.

Пятро зноў вярнуўся да свайго назіральнага пункта ў зале.

Каля машыны, у якой былі шырока расчынены дзверцы, з'яўляліся то адзін, то другі мужчына.

– Падрыхтоўваюць месца, каб цела вынесці, – шэптам прамовіў Пятро і нервова прыкусіў вусны.

Але час ішоў, а нябожчыцу ніхто не выносіў. Настрой ушчэнт сапсаваўся.

«Спачатку даведаюся, хто там сканаў, а потым пайду і паем», – вырашыў ён і прымасціўся на канапу.

Пасядзеўшы нейкі час у задуме, Пятро зноў зірнуў у акно. Машыны ўжо не было.

«Прамаргаў, стары пень», – лаяў сам сябе стары, пакуль ішоў на кухню снедаць.

У абед выйшаў на вуліцу прагуляцца і сустрэў суседа Толіка.

– Прывітанне, дружа! Не ведаеш, хто ў вас сёння раніцай аддаў жыццё?

– Здаецца, ніхто, усе жывыя, – здзівіўся той.

– А чаму санітарная машына каля пад'езда так доўга стаяла, людзі мітусіліся, агні гарэлі? – не сунімаўся Пятро.

– У кватэры на чацвёртым паверсе газавую пліту мянялі...

– А машына хуткай дапамогі што там рабіла? – нічога не разумеў стары.

– Ды не было яе там! Гэта машына «газавікоў» падобная па афарбоўцы, – засмяяўся Толік.

– Вось я дурань! Сабе настрой сапсаваў і старую разнерваваў. Пабягу хутчэй дамоў, абрадую Ганну. І да акуліста на прыём запішуся, – прамовіў Пятро і хуценька падыбаў дахаты, каб падзяліцца добрай навіной з жонкай.

*г. Гродна.*

---

## Міхась МІРАНОВІЧ

## МІРАНІЗМЫ

### Каб слухалася маці...

Папрок пачуўшы
Ад матулі,
Дачка ёй
Адказала смела:
– Каб слухалася
Ты бабулі –
Мяне б, бадай,
Яшчэ не мела!..

### Лупцоўка



Са школы з «двойкаю»
Лявон шыбуе:
– Хай мяне маці
Хутка адлупцуе!
– Куды ж спяшацца? –
Кажа дзед Сымон.
– Бо прыйдзе бацька –
Адлупцуе ён!

### Кім хочаш стаць?

– Хачу, Пятрусь,
Цябе спытаць, –
Звярнуўся дзед
Да піянера. –
Як вырасцеш,
Кім хочаш стаць?
– Ды, як і ты –
Пенсіянерам.



*г. Віцебск.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## «ЖЫВЫЯ» ПРЫКАЗКІ

*Крыжаванка*

*Калі вы правільна ўпішаце ў гарызантальныя радкі назвы жывых істот з прыказак і прымавак, то зможаце прачытаць па вертыкалі прапушчанае слова з яшчэ аднаго вобразнага выслоўя: «Баязліваму адзін корч — ...».*

1. За ... не ганяйся з тапаром.
2. Лысая карова лысае ... прывядзе.
3. Што ... па чужому гнязду.
4. Варону ў ... не перафарбуеш.
5. ... кожны год ліняе, але нораву не мяняе.
6. І ... на сваім сметніку гаспадар.
7. Колькі качка ні мудрыся, а ... не будзеш.
8. ... ведае адну навуку — кусаць.
9. ... на чатырох нагах і то спатыкаецца.




**Адказы: 1.** Камаром. **2.** Цяля. **3.** Дразду. **4.** Селязня. **5.** Воўк. **6.** Певень. **7.** Лебедзем. **8.** Змяя. **9.** Конь.
*Прапушчанае слова:* ***мядзведзь.***

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 9 (1524), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Веранікa МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.

Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Алена КАРП

Падпісана да друку 08.09.2015. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,46. Тыраж 1396 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.






Толькі студэнты і школьнікі на пытанне: «Колькі часу?» могуць адказаць: «Пяць хвілін засталося!»

* * *

На ўроку настаўніца строга пытаецца ў Івана:

— Чаму ты спісаў кантрольную ў суседкі па парце?

— А як вы даведаліся? — дзівіцца той.

— На пятае пытанне яна адказала: «Не ведаю», а ты напісаў: «Я таксама».

* * *

Настаўніца звяртаецца да вучняў:

— Хто можа назваць слова, у якім як мага больш літар «о»?

— Я! — цягне руку Пеця. — Гооооооол!




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Сам сабе рэвізор




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

## На сустрэчы выпускнікоў




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Хмель не вада — чалавеку бяда




Малюнак
Аляксандра ШМІДТА.

## Падпішыся на «Вожык»!

Выпішы часопіс «Вожык»
І не траць на лекі грошы:
Калі гумар даспадобы,
Не чапляюцца хваробы!

**Святлана АГЕЯВЕЦ,**
*Пружанскі раён,*
*г. п. Ружаны.*




**ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:**

Якое каханне згадваюць часцей за ўсё?

Адкуль бягуць смелыя пацукі?

Калі прыходзіць апетыт?

Дзе лепш зімаваць буслу?

Што карысней: піва ці кампот?

***І многае-многае іншае! Да сустрэчы!***

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

